№ 9 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 9 (205). Год III. Вільня, 29 студня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.

## 28 студня.

**Заходні тэатр:**

На поўначы ад Бэцеляр ўзято разведчыкамі 17 палоных англічан, у тым ліку аднаго афіцэра.

**Італьянскі тэатр.**

На плоскагорії Семі Грамад артылерыйскіе бітвы перэйшлі раніцай у аколіцах Коль-дэль Россо да вялікай заядласьці.

---

ВЕНА. Граф Чэрнін выехаў у Брэст-Літоўск

БЭРЛІН. Статс-сэкрэтар Кюльман выехаў у Брэст.

ШТОКГОЛЬМ Фінляндзкі сэйм выбраў дэпутацію дзеля прэдстаўніцтва Фінляндзіі у Брэст-Літоўску. Яна складаецца с трох соцыялістаў і трох прэдстаўнікаў буржуазіі.

ЛОНДОН. Французскіе і англіцкіе газэты наказуюць, што між саюзьнікамі йдзе абмен думкамі аб адказе на заяву Чэрніна і Гэртлінга. Вільсон дасьць адказ на гэтые заявы паводлуг пунктаў.

ПЕЦЯРБУРГ. Барацьба на вуліцах у апошніе часы ўзмацавалася. Пецярбурскі гарнізон пачынае вагацца. Дэпутація Прэображэнскага, Паўлаўскага і Валынскага палкоў заявіла ўраду пратэст проці пабіцьця работнікаў і салдатаў небальшэвікоў. Ад 18 студня арэштованы 6.800 асоб. Опозіція мяркоўных расьце. У апошніе 4 дні ў Пецярбург саўсім не прывазілі спажыўных прадуктаў.

ПЕЦЯРБУРГ (Гавас). Тутка выходзіць тыкеля 7 газэт не бальшэвіцкіх, ды і тые с перарывамі і вялікімі труднасьцямі. Калі газэт не конфіскуюць ешче ў друкарнях, дык чырвоные гвардзейцы з грозьбай адбіраюць сілай газэты у газэтчыкоў на вуліцах. Нават у публікі на вуліцах гвалтам адбіраюць газэты.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Выдан дэкрэт аб дэмократызаціі флота. Флот расейскай рэспублікі складаецца з грамадзян, маючых роўные правы і называючыхся „грамадзянамі-маракамі расейскай рэспублікі“. Начальнікі кіруюць тэхнічнымі і стратэгічнымі справамі а разам з выбранымі камітэтамі і адміністраціей флота. Кожын матрос мае права належаць да якойхоч палітычнай партыі. Усе начальнікі выбіраюцца на аснове агульных загадаў і зацьверджаюцца цэнтральным камітэтам флота. Выдаленьне са службы павінно быць пастаноўлено перэвагай ⅔ галасоў мешанай камісіі. Хто гэтак атрымаў адстаўку, таго перэводзяць у запас.

АПАРАНДА. С прычыны забойства чырвонай гвардзіей двух жалезнадарожнікаў была сперша пастаноўлена агульная забастоўка на чыгунках па ўсей Фінляндзіі, але пасьля дзеля пратэсту пастаноўлено забаставаць на участку Пецярбург-Выборг.

ЛЬВОУ. Украінская газэта „Діло“ наказуе, што пад Луцкам ідзе вострая бітва між украінцамі і большэвікамі. Бітву пачалі украінцы. Начальнік большэвікоў звярнуўся аб помач да аўстрыяцкай артылерыі, але тая помачы не дала.

БЭРЛІН (В.Т.Б.) 27.I. Навакол Англіі ізноў затоплена падводными лодкамі 20.000 тонн.

СЬВІСЛАЧ. Прыняцьце на беларускіе вучыцельскіе курсы, каторые пачынаюцца 1 лютага, далей трывае — да 10 лютага.

Новы курс будзе трываць 4 месяцы.

ВІЛЬНЯ. 29.I. у памешчэньні 8-га цыркулу камісіі дзеля апекі над пакінутымі дамамі, Аб'ездная 6, адбудзецца прадажа з ліцытаціі на дровы аднаго дрэўлянага дому. Спраўкі ад 9 да 1 гадз. ў цыркуле.

---

## Як мы зрабіліся „палякамі“.

Так то хрэсьцілі мяне казакі
С тутэйшага да у палякі...

„Хрэзьбіны Мацюка“
М. Бурачка.

Гэта было ў канцы мінулага сталецьця і ў пачатку цякучага. У расейскай сярэдняй школе панаваў тады ўва ўсей сіле русыфікатарскі дух. У многіх ешчэ сьвежы ў памяці тые часы, калі пэдагогічны пэрсонэль у нашых школах складываўся або з людзей, не маючых нічога супольнага с пэдагогіей—п'яніц ды распусьнікаў, вельмі часта нават на лекцію прыходзіўшых нецьвярозымі, або с прысланых сюды, на «акраіну», з цэнтральных губэрній Расеі «пэдагогаў»—чыноўнікаў, каторые с кніжкай сумнай славы гісторыка Іловайскага ў руцэ энэргічна праводзілі ў жыцьцё ідэю абрусеньня Беларусі і рабілі сабе чыноўнічую карьеру...

Рэч зразумелая, што ў душу маладзежы, адданай у такую школу, павінен быў зрадзіцца пратэст.

Усё беларускае даўно ўжо было загнано, прыбіто, заглушэно.,.

Самай яркай праявай праціўнай ідэі, самым страшным ворагам плыўшай са ўсходу русыфікацыі быў полёнізм, пусьціўшый глыбокіе ўжо ў

---

## Што было і што павінна быць.

(Гл. „Гоман“ № 8).

Яшчэ да сёлетняга году было многа людзей, што працавалі дзеля адраджэньня беларусаў. Сёлетаж, пасьля рэвалюцыі ў Расеі, у Беларусі на той бок фронту усе селяньне, мешчаньне, паны і ксяндзы азяліся за сваё беларускае, нават некаторые с паноў вярнуліся да свайго роднага. І ў гэтай часьці Беларусі ідзе беларуская праца Ужо цяпер ня рэдка чуваць, як у месьці людзі вучоные або ксяндзы гаворуць па беларуску і шчыра працуюць у беларускім руху. Але гэтага мала, трэба яшчэ болей працаваць, трэба, каб ня было ні воднага чэлавека, што чураецца свайго роднага.

Цяпер настаў час, калі нам ўжо ніхто забараніць ня можэ вярнуць свае даўнейшае права і волю, зрабіць у сябе усё і усюды па беларуску, зрабіць тое, за што нашы прадзеды мучаліся цэлые сотні гадоў.

### II.

Але часта людзі бываюць натта дзіўные. Як у 1861 г. асвадзілі селян с паншчыны, некаторые не хацелі ісьці на волю, кажучы: „штож мы зробім без паноў“? Гэтак і цяпер, калі мы можэм вярнуць свае правы і дабіцца лепшага жыцьця. некаторые з нашых беларусаў с свае цямнаты, або падвучаные і баламучаные непрыяцелямі нашага народу,. панамі, што калісь прадаліся палякам і цяпер яшчэ не вярнуліся да свайго роднага, кажуць «На што гэта беларусы, літвіны, на што гэтых шмат народаў»?

Наш беларускі народ не цяпер паўстаў, але быў спрадвеку, здаўна. Калі казаць на што беларусы, дык можна сказаць на што палякі, расейцы, немцы, французы, англійцы, але мы бачым, што ніхто з гэных народаў гэтак не кажэ, наадварот усе яны дзяржацца свайго роднага. Выступаючы проціў свайго беларускага, нашы людзі ня ведаюць, што гэтым ня толькі робюць вялікую шкоду, свайму краю, народу, сабе і сваім патомкам, але і ідуць проціў таго, што падабаецца Самому Богу. Бо Бог стварыў розные народы, бо калі на сьвеце ёсьць многа народаў, то гэтакі сьвет пякнейшы, пякней выглядае і Богу гэтакі сьвет лепш падабаецца.

У ксёнжках да набажэнства, што каталікі пяюць або чытаюць сьвятам у касьцёле, кажыцца па лацінску: Laudate Dominum omnes gentes, па польску «Chwalcie Pana (Boha) we wszystkich językach», у ксёнжцы да набажэнства ў беларускай мове: „Хваліце Бога у ва ўсіх языках“. У Праваслаўным псалтыры па славянску: Хваліце Господа всѣ языцы.

Значыцца Бог прыказывае, каб кожны народ маліўся у сваей роднай мове.

Ды нам сьвет больш падабаецца, калі ёсьць на ім многа народаў, пякнейшы гэтакі сьвет. Бо прыраўнуйце да птушак. Есьць розные птушкі пекные і брыткіе, але нехай бы сталася так, што асталася якаясь адна парода птушак, напрыклад, салавей што так пекна пяе, і людзі сказаліб: «Не, нехай лепш будуць пекные і брыткіе, але каб былі розные, бо з жаднэй якойсь хоцьбы найпекнейшай птушкай, натта скучна».

Гэтак Бог стварыўшы розные птушкі, рыбы, розные краскі і розные народы, — пекны сьвет стварыў. Такі пекны, што с самага яго пачатку чэлавек глядзіць на гэты Божы сьвет, любуецца ім і дагэтуль налюбавацца ня можэ. Дык ня трэба нам перэрабляць гэты Божы сьвет перэкідываючыся ў палякоў, або ў расейцаў, але трэба заховываць тое найдаражэйшае, што сам Бог нам даў, значыцца трэба любіць свой народ і працаваць для свайго народу, трэба любіць сваю беларускую мову, шанаваць яе ігаварыць заўсёды па свойму.

Але можэ хто такі знойдзіцца, што скажэ: „Нехай сабе там і вучоные людзі і ксяндзы любяць гэту мову, я не хачу быть беларусам, буду палякам». Дык штож вы думаеце ён ужо і стаўся палякам? — Нічагусінкі! Гэта усё роўна, каб напр. конь захацеў канечна стацца бараном, дык ён могбы сабе думаць колькі хочэ, што ён баран, ад-

ганізована мудра і сумленна. Мы маем поўнае даверье, што вольная і магутная Нямецкая дзяржава будзе прыцягіваць другіе сумежные народы на усходзі. Нямецкая палітыка ніколі і ні пры якіх варунках ня будзе карыстацца мелачным паліцэйскім уціскам і іншымі падобнымі спосабамі. Мы жадаем устанавіць свабодные, шчырые і прыязные зносіны між намі і суседнімі народамі. Лісткі шырэные пецярбурскім урадам, разбіваюць веру і жаданьне міра у Троцкага, бо падобные заявы даюць аснову думаць, што гэтые паны хочуць вясьці іншую палітыку, чым палітыка скорага і сумленага міра".

БЭРЛІН. **Глаўная Камісія.** Статс сэкрэтар Кюльман у новай сваей прамове між іншым сказаў:

„Я не магу акуратна сказаць, калі мы аканчацельна прынялі палітыку, якую вядзем цяпер у адносінах да народаў колішняй заходняй Расеі. Бязспорна, наша палітыка ў Курляндзіі і Літве звязана с палітыкай у Польшчы.

„Што датычэцца нашай працы у Брэсьці, дык трэба разрожніваць два пэрыоды. Пад той час, як у пачатку нам здалося, што ўсе члены расейскай дэлегацііі былі да нас прыхільны, падтрымлівалі зносіны з намі пасьля заседаньняў і прыватнымі гуртаркамі шмат пасоўвалі ўпярод перэгаворы, — с прыездам п. Троцкага, як галавы расейскай дэлегацііі, ўсё зусім змянілося. Расейцы зачыніліся у сваіх кватэрах, прыходзілі да нас тольні на офіцыальные заседаньня; абмен думкамі адбываўся заўсёды пры двух або нават трох членах расейскай дэлегацііі.

„Цяперашняя Расея—гэта нешта зусім іншае, чым гісторычная Расея, на каторую мы глядзелі, як на нешта суцэльнае, сконцэнтрованае. Цяпер у Расеі ёсьць некольні рэчэй, з якімі трэба рахавацца: гэта — Фінляндзкая рэспубліка і Украіна. З расейскімі прэтэнсіямі, каб мы пакінулі занятые землі, мы ня можэм згадзіцца. Расейцы жадаюць утварэньня перш пустога мейсца, а пасьля запаўненьня яго нечым; мы-ж прызнаем тое, што ўжо ёсьць, і гатовы ў меру патрэбы гэта змяніць або пашырыць. Я сам думаю так, што развязка пытаньня аб долі народаў можэ быць дадзена устаноўчым сэймам, а не агульнай падачай галасоў, — але я ня веру, каб гэта справа зрабіла перэгаворы немагчымымі".

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 24. I. На сягоньняшнім заседаньні глаўнай Камісіі Рэйхстагу канцлер сказаў прамову, гаворачы між іншым гэтак:

„Перэгаворы у Брэст-Літоўску трываюць далей. Яны памалу пасоўваюцца ўпярод і вельмі цяжкіе. Часамі прыходзіцца сумлевацца, ці расейская дэлегацыя жадае мірных перэгавораў, і ўселякіе бездрацяные тэлефоны зместам сваім узмацоўваюць гэтае сумлеваньне. Што датычэцца прамовы Вільсона і яго дамаганьняў, высказаных у 14 пунктах,—дык пераважная часць прынцыпіяльна ня розніцца з нашымі. Гэтак ёсць у справе недапусканьня тайных умоў між народамі, свабоды на морах, скасаваньня экономічнай вайны, агранічэньня зброеньня. У справе ачысткі занятых зямель Расеі мы прымушэны адкінуць яго дамаганьне. Аб аддачы якой-колечы часткі Нямеччыны другой дзержаве нельга гаварыць: аб гэтым ніколі ніякай гутаркі быць ня можэ. Аб жаданьнях Вільсона ад Аўстро-Вэнгрыі і Турэччыны трэба сказаць, што мы верны нашым саюзьніцкім абавязкам і ня можэм дапусьціць паменшаньня іх граніц. Пытаньне аб Польшчы датычэ тольні Аўстрыі, Нямеччыны і самой Польшчы.

„Ніхай нашы ворагі ведаюць: нашэ ваеннае палажэньне ніколі не было гэткім добрым як цяпер. Калі вайна зацягнецца з віны нашых ворагоў, дык пасьледзтвы гэтага падуць на іх».

ВЕНА. (К.-Б.) 24.I. Міністэр заграніччных спраў, граф Чэрнін сказаў між іншым у аўстрыяцкай дэлегацыі:

„Я заяўляю ешчэ раз, што Аўстрыя не жадае ад Расеі ні пядзі зямлі і ні воднага граша. Калі Расея гэтак жэ адносіцца да Аўстрыі, дык можна дайсьці міра. Мы асабліва цікавімся новаутворэнай Украінскай дзержавай. Мы думаем, што Украіна, як зусім незалежная дзержава, можэ вясьці з намі і зусім незалежные перэгаворы. Пецярбурскі урад на гэта ня годзіцца, і гэта — прычына зацягіваньня справы.

ВЕНА. **Аўстыяцкая дэлегацыя.** Гр. Чэрын далей казаў:

„Нямеччына мае вялікіе калоніі, каторые павінны быць вернены ей пры агульным міры. Пакуль іх ей ня вернуць, яна будзе дзержаць у сваіх руках залог: землі Бэльгіі і Франціі".

# ТЭЛЕГРАМЫ.

**Нямецкіе апавешчэньня:**

**25.I. Заходні тэатр:**

Між Пэлькапель і Ліс, пры Ленс і наабапал Скарп крапчэла ваенная чыннасць.

**26.I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: На фронці Фляндрыі між Блянкартсэ і Ліс, пры Ленс і наабапал Скарп —артылерыйская бітва. Пры Кру азель і Эншы ўзяты палонные.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На каналі Уаз-Эн, у Шампані і наабапал Маасу—агонь. У лесі Авокур узяты 24 палонные і 1 кулемёт.

---

За апошніе 4 дні ў бітвах на паветры збіты 25 варожых самалётаў. Нашы лятуны ўдачна атавалі паўночнае узбярэжжэ Франціі і скінулі бомбы на Дюнкірхэн, Кале і Булонь.

**Італьянскі тэатр.**

На плоскагорыі Ас'яго і наабапал Брэнты — вострые артылерыйскіе бітвы.

**27.I. Заходні тэатр:**

Слабая баевая чыннасць. У Верхніх Вогезах узяты палонные.

**Італьянскі тэатр:**

На плоскагорыі Ас'яго і на ўсходзі ад Брэнты—жывейшая артылерыйская бітва. Італьянскі штурм на Монте Пэртіка адбіт.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Турэцкі броненосец «Sultan Jawus Selim» зняты з мялізны і шчасьліва вярнуўся ў Дарданэлі.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі ў паўночных водах затапілі 6 параходаў і 2 рыбаловы.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкімі падводнымі лодкамі затоплены 6 параходаў і 1 вартаўнічае судно.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.